ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 29 22 ліпеня 1993 г. Выдаецца з 1955 г.
(2327)

## ПЕРШЫ З'ЕЗД БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ АДЫШОЎ У ГІСТОРЫЮ




# НЕ ВЫПУСЦІМ З РУК СВАЮ ЎЛАСНУЮ ДОЛЮ

ТЫДЗЕНЬ з 5 па 10 ліпеня, калі ў Мінск на свой першы сусветны форум з'ехаліся беларусы з усяго свету, пачынаўся халоднымі зацяжнымі дажджамі. Часам толькі салодкі пах цвітучых ліп на вуліцах горада нагадваў, што на двары самая макаўка лета. Дождж суправаджаў дэлегатаў і гасцей з'езда ў іх паездцы ў Навагрудак, на Купалле, дажджлівай і пахмурнай была раніца, калі ў Дзяржаўным тэатры оперы і балета пачаў сваю работу Першы з'езд беларусаў свету. Аднак потым пацяплела, і яркі, па-сапраўднаму гарачы летні дзень выдаўся ў суботу, на заканчэнне з'езда. Прырода быццам бы засведчыла сваю прыхільнасць і адобрыла падзею, што паклала пачатак новым, сапраўды цывілізаваным адносінам паміж маці Беларуссю і яе сынамі і дочкамі, якім лёс наканаваў жыць удалечыні ад яе. У разлуцы з ёю, у шчасці і няшчасці, з усмешкай ці са слязамі яны заўсёды помнілі пра Радзіму, чакаючы спагады і падтрымкі, і самі гатовыя аказаць ёй дапамогу.

Высокі сход. Тры Вялікія дні. Гістарычная падзея. Усё гэта пра Першы з'езд беларусаў свету. Неразуменне, непрыняцце, абыякавасць — таксама стаўленне да з'езда. Галоўная ідэя з'езда — аб'ядноўчая. І сапраўды, што можа быць больш высакародным і стваральным, чым кансалідацыя сіл, розумаў, вопыту, намаганняў дзеля дабрабыту, шчасця і працвітання Бацькаўшчыны. А сёння, як ніколі раней, нашай спакутаванай і абяссіленай Беларусі прыдасца дапамога кожнага беларуса, дзе б ён ні жыў, якую б веру ні вызнаваў, якіх бы палітычных поглядаў ні прытрымліваўся.

"Наступіў Богам наканаваны час збіраць камяні, — сказаў паэт і дзяржаўны дзеяч Ніл Гілевіч. — Кожны беларус павінен няспынна паўтараць: я павінен жыць і працаваць так, каб маёй Беларусі стала лепш". Аднак, перасцярог ён, у пошуках шляхоў варта помніць, што кожны памылковы крок можа стаць трагічным. На жаль, у нас ва ўрадзе і Вярхоўным Савеце, працягваў прамоўца, беларуская ідэя не стала галоўнай аб'ядноўчай сілай, бо Беларусь пакуль што не стала сапраўднай незалежнай Беларускай дзяржавай. "Нягледзячы на тое, што парламент і ўрад да гэтага часу не пачуваюцца беларускімі, мабілізацыя здаровых нацыянальных сіл адбываецца, і, адчуўшы подых свабоды, беларусы не выпусцяць з рук сваю ўласную долю".

**НА ЗДЫМКУ: дэлегаты з'езда ля ўваходу ў оперны тэатр, дзе з 8 па 10 ліпеня праходзіў сусветны форум беларусаў свету. Крайні злева Янка ЗАПРУДНІК.**

(Працяг на 4-й стар.).

## *ПАГАВОРЫМ ПА ШЧЫРАСЦІ*

**Наўрад ці хто будзе аспрэчваць, што эканамічная і палітычная сітуацыя ў рэспубліцы зараз вельмі складаная, і цяжка нават уявіць сабе сёння, што магло б яе тэрмінова палепшыць, якія меры прывялі б да радыкальных зменаў у сацыяльным становішчы Беларусі. Розныя палітыкі часам па-рознаму бачаць праблемы грамадства і шляхі іх вырашэння, і нават калі не зусім пагадзіцца, прыслухоўвацца да кожнага трэба абавязкова. Спадзяемся, што нашых чытачоў зацікавіць інтэрв"ю старшыні праўлення Федэрацыі прафсаюзаў Рэспублікі Беларусь Уладзіміра ГАНЧАРЫКА, якое ён даў нашаму карэспандэнту.**

# ЗА ШТО Б'ЮЦЦА ПРАФСАЮЗЫ?

*"Паважаныя дэпутаты! Яшчэ 7 чэрвеня Прэзідыум Савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі звярнуўся да Вярхоўнага Савета з прапановай разгледзець на цяперашняй сесіі сацыяльна-эканамічную сітуацыю ў рэспубліцы. Яе абвастрэнне выклікана рэзкім павышэннем цэнаў без дастатковай сацыяльнай абароны насельніцтва. Гэта прапанова падтрымана многімі працоўнымі калектывамі. 21 чэрвеня у Мінску адбыўся шматтысячны мітынг, прынятая на ім рэзалюцыя накіравана Вярхоўнаму Савету і Савету Міністраў. Агульныя патрабаванні зводзяцца па сутнасці да трох пытанняў. Першае: неабходна тэрміновая эканамічная і фінансавая падтрымка прадпрыемстваў, асабліва радыёэлектроннай, абароннай, станкабудаўнічай галін, каб не дапусціць канчатковага іх спынення, максімальна захаваць рабочыя месцы і дапамагчы знайсці крыніцы павышэння заработнай платы. Другое: патрэбна неадкладная карэкціроўка праграм рэформ. У агульным выглядзе гэта прыняцце антыінфляцыйных мер, перагляд усёй сістэмы падаткаабкладання ў бок стымулявання вытворчасці не пазней верасня. Трэцяе: прапануецца ўключыць у парадак цяперашняй сесіі пытанне аб даце новых выбараў у Вярхоўны Савет і прыняць адпаведнае рашэнне. Адзначу, што дзеянні прафсаюзаў будуць адэкватныя тым мерам, якія прымаюцца органамі ўлады".*

*(З выступлення старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі У.ГАНЧАРЫКА на сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь).*

**— Паважаны Уладзімір Іванавіч! Падчас вашага выступлення на сесіі (а я глядзела яго па тэлевізары) тэлекамеры паказвалі залу пасяджэнняў, дэпутатаў, якія сядзелі спіной да выступаючага, хадзілі па зале, чыталі газеты, нешта пісалі. Складвалася ўражанне, што праблемы, пра якія вы гаварылі, не здаваліся ім значнымі, не заслугоўвалі ўвагі. А гаворка ішла, бадай што, пра будучыню рэспублікі. Як вы расцэньваеце гэта!**

— Адмоўна. Гэта, калі хочаце, характарыстыка Вярхоўнага Савета, бо ён так ставіцца не толькі да прафсаюзаў, а ўвогуле да буйных праблем, якія наспелі ў рэспубліцы. Я вельмі лаяльны да Вярхоўнага Савета, але не магу не заўважыць, што ён, на жаль, не ўмее хутка рэагаваць на змены ў грамадстве, прадбачыць падзеі і аналізаваць іх.

**— Як вы лічыце, чаму!**

— Напэўна, дзейнічае стары прынцып: нам лепш бачна, мы лепш разбіраемся, больш ведаем. І навошта нехта яшчэ, тыя ж прафсаюзы, умешваюцца і перашкаджаюць працаваць?! А прафсаюзы, між іншым, выказваюць думку народа, яго настрой, і якім бы ні быў добрым дзяржаўны апарат, калі ён не будзе цікавіцца, чым і як жывуць людзі, — ён будзе нежыццяздольным. Так, на першы погляд, плата за кватэру тры—чатыры тысячы, можа, і не такая ўжо трагедыя, калі сярэдняя заработная плата па рэспубліцы 24 тысячы рублёў. Але ж у нас шмат людзей атрымліваюць зарплату 8—9 тысяч, а гэтага ніхто не ўлічвае, пра гэта забываюцца.

**— Як бы вы ахарактарызавалі зараз становішча ў рэспубліцы, і дзе асноўныя "болевыя кропкі" эканамічнага і сацыяльнага жыцця!**

— Канешне, на бытавым узроўні павышэнне цэн — галоўнае, што закранае кожнага чалавека, але ж мы лічым, што асноўнае сёння — гэта даць магчымасць людзям працаваць, захаваць працоўныя месцы. Мы разумеем, што захаваць працоўныя месцы ў поўным аб"ёме практычна немагчыма, бо ў нас ёсць шмат прадпрыемстваў, якія выпускаюць непатрэбную цяпер прадукцыю (напрыклад, абаронныя заводы). Так, іх трэба закрываць ці перапрафіліраваць, але ж абдумана, згодна з дакладнай праграмай, вызначаючы лёс кожнага канкрэтнага прадпрыемства. Наш урад абраў іншы шлях: вось рынак, вось вам самастойнасць, працуйце! Але ж не бывае так, каб чалавека, які не ўмее плаваць, кінулі ў ваду і ён адразу паплыў. Прадпрыемствам трэба дапамагчы зарыентавацца, перапрафіліравацца. А тут і плаваць не вучаць, і на бераг не цягнуць. Далей. Вельмі цяжка адбіваюцца на нашай эканоміцы праблемы забеспячэння энерганосьбітамі.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ПОДПІСАМ ТРАІХ*

## НОВЫ ЭКАНАМІЧНЫ САЮЗ

**10 ліпеня 1993 года прэм"еры трох суверэнных дзяржаў — Беларусі, Расіі і Украіны — падпісалі заяву аб неадкладных мерах па паглыбленні эканамічнай інтэграцыі. Карацей, саюз трох славянскіх дзяржаў. Паводле намераў урадаў, эканамічная інтэграцыя павінна ахапіць сферы вытворчасці, інвестыцый, знешняга гандлю, грашова-крэдытных, фінансавых, валютных і сацыяльных адносін. І ўсё гэта дзеля таго, каб прыпыніць разрыў вытворчых сувязей, якія склаліся традыцыйна, садзейнічаць дынамічнаму і гарманічнаму развіццю эканомікі трох рэспублік, правядзенню эканамічных рэформ "у інтарэсах павышэння жыццёвага ўзроўню насельніцтва".**

**Па меркаванні В.Кебіча, эканамічны саюз краін Садружнасці можна будзе стварыць вельмі і вельмі няскора. Таму і ўзнік саюз трох дзяржаў, да якога могуць далучыцца ўсе, хто падзяляе яго прынцыпы і мэты.**

**Першы плён траістага саюза яго аўтары абяцаюць народу ўжо на пачатку 1994 года.**

*КАНТАКТЫ*

## СУСТРЭЧА З АПАЗІЦЫЯЙ

**Адбылася афіцыйная сустрэча Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Венгрыя ў Рэспубліцы Беларусь Акаша Энгелмаера з апазіцыяй БНФ у Вярхоўным Савеце. Спадара пасла цікавіла палітычнае і эканамічнае становішча Беларусі і пазіцыя па гэтых праблемах Беларускага народнага фронта.**

**Калі адбудуцца наступныя выбары ў Вярхоўны Савет? Чаму няма новага закона аб выбарах? Ці будзе прынята новая канстытуцыя Беларусі? Ці адбудзецца рэферэндум? Як уплываюць сродкі масавай інфармацыі на фарміраванне грамадскай думкі? Ці існуюць у Беларусі свабодныя прафсаюзы? На гэтыя і шэраг іншых пытанняў падрабязна адказаў дэпутат Валянцін Голубеў, сакратар Камісіі па міжнародных справах і знешнеэканамічных сувязях у Вярхоўным Савеце. Абмяркоўвалася пытанне аб пашырэнні сувязей паміж Беларускім народным фронтам і венгерскімі партыямі. Бакі выказалі зацікаўленасць у далейшых сустрэчах.**

*ПАШПАРТ*

## ЗАЛАТЫМІ ЛІТАРАМІ

**Прэзідыум Савета Міністраў зацвердзіў палажэнне аб пашпарце грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, [illegible] ўзор і апісанне. Гэты дакумент, выдача якога пачне[illegible] з 1994 года, атрымаюць асобы, якія пастаянна жы[illegible] на тэрыторыі рэспублікі на дзень уступлення ў сілу закона аб грамадзянстве, і тыя, хто набыў беларускае грамадзянства ў адпаведнасці з вышэйназваным законам. Пашпарт будзе сапраўдным пры выездзе за мяжу. Ён машынасчытваемы, з вокладкай цёмна-сіняга колеру, на якой залатым цісненнем нанесены гер[illegible] надпісы на беларускай і англійскай мовах "Рэспуб[illegible] Беларусь" і "пашпарт".**

*ПЕРСПЕКТЫВА*

## ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА Ў БЕЛАРУСІ

**Якія перспектывы развіцця прадпрымальніцтва на Беларусі да канца 1993 года! Толькі 43 працэнты прадпрымальнікаў заявілі, што такія перспектывы ёсць (2 працэнты лічаць іх добрымі, а 41 працэнт — здавальняючымі); 32 працэнты апытаных "Цэнтрам даследаванняў будучыні" лічаць, што неабходных умоў для прадпрымальніцтва яшчэ няма, і бачаць падобныя перспектывы ў больш аддаленай будучыні — на працягу бліжэйшых 5—7 гадоў. Асноўныя праблемы тут — падатковая палітыка дзяржавы, адсутнасць прававых гарантый, націск чыноўнікаў, рэкет.**

*"ЗАЛАТАЯ АРКА" — У ХІМІКАЎ МАГІЛЁВА*

**Прэстыжная ўзнагарода ўручана калектыву магілёўскага вытворчага аб"яднання "Хімвалакно": "Залатая арка Еўропы-93". Як сказана ў суправаджальных дакументах, яна ўручаецца "...за невымерны ўклад у сусветны бізнес, за высокі прафесіяналізм".**

**Прадукцыя магілёўскіх хімікаў, што ідзе як на замежны, так і на ўнутраны рынак, заўсёды вызначалася высокай якасцю. І хаця ўзнагарода была нечаканай, прызнанне не прыйшло выпадкова. Многа працы было ўкладзена, перш чым прадукцыя аб"яднання знайшла выхад на Захад. Не раз пасля заключэння чарговага замежнага кантракта прадпрыемства падвяргалася стараннай аўдытарскай праверцы. Аднак высокі ўзровень культуры вытворчасці і выдатная якасць прадукцыі дазвалялі выходзіць з гэтых сітуацый з гонарам.**

**Як і ўсякая ўзнагарода, "Залатая арка" дае калектыву пэўныя правы. Цяпер магіляўчане на працягу года могуць выкарыстаць сімвал аркі ў выглядзе таварнага знака на розных выстаўках сваіх тавараў, фірменных бланках. А гэта ўжо "зялёная вуліца" для іх прадукцыі. У той жа час узнагарода і абавязвае: важна ўтрымацца на дасягнутым узроўні.**




**НА ЗДЫМКУ: генеральны дырэктар ВА "Хімвалакно" Іван ЯФАНАЎ з прэстыжнай узнагародай.**

*"Беларускае насельніцтва шматнацыянальнай Віленшчыны — адзіная тут нацыянальная супольнасць, якая не мае дапамогі з боку ўрада дзяржавы сваёй нацыі.*

*Нам крыўдна назіраць, як пры кожным візіце кіраўнікоў Расіі і Польшчы ў Вільню, Літвы — у Польшчу і на Беларусь яны сустракаюцца з прадстаўнікамі мясцовага расійскага, польскага, літоўскага насельніцтва. Літва збудавала буйнейшы культурны цэнтр у беларускіх вёсках Пеляса і Гервяты для некалькіх тысяч літоўцаў Беларусі. Нядаўна прэм"ер-міністр Літвы падпісаў загад пра выдзяленне ў гэтым годзе 145 мільёнаў талонаў на будаўніцтва буйнога культурнага цэнтра ў Сейнах для літоўцаў Польшчы. У Літве рэтранслююцца два расійскія і польскі тэлевізійныя каналы, але няма беларускага. Няма чаго казаць пра тое, якія вялізныя сродкі ўкладае Польшча ў польскія школы, друк, культурныя ўстановы на Віленшчыне. Складваецца ўражанне, што ўрад Беларусі наўмысна адлучае нас ад жыцця рэспублікі, спрыяючы хутчэйшай русіфікацыі, паланізацыі ды літуанізацыі карэннага беларускага насельніцтва Віленшчыны. І вынікі не прымушаюць сябе чакаць. Беларусы — адзіная нацыя ў Вільні, чыя колькасць за апошнія гады зменшылася.*

*(З ліста Таварыства беларускай культуры ў Літве да грамадскасці краіны).*

*КОЛЬКІ ЗА ШТО*

## ЗА ГРАНІЦУ — ДОРАГА

**З першага ліпеня адпраўка звычайнага канверта з пісьмом з Беларусі ў далёкае замежжа абыходзіцца ў 150 рублёў. "Авія" — у два разы больш. Бандэролі таксама выраслі ў цане. Яны падзелены на тры групы: першая — Амерыка і Аўстралія, другая — Афрыка, трэцяя — Еўропа. Каб паслаць бандэроль вагой два кілаграмы, давядзецца выкласці ад 3 810 да 5 460 рублёў. Авіябандэроль каштуе яшчэ больш — ад 11 да 18 тысяч рублёў.**

**Паднялася плата і за пасылку дробных пакетаў. Іх адпраўка каштуе ад 3 640 да 5 460 рублёў. Гэтак жа ў залежнасці ад групы прыйдзецца плаціць за адпраўку пасылкі. За 10-кілаграмовую пасылку ў Амерыку наземным транспартам бярэцца плата ў памеры 52 480 рублёў. "Авія" будзе каштаваць 43 579 рублёў. Калі ж вага пасылкі больш за 10 кілаграмаў, то за кожныя 0,5 кілаграма трэба дапласціць каля 6 тысяч рублёў.**

**Хутка, відаць, для многіх стануць недаступнымі паслугі пошты.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

ПАВОДЛЕ апытанняў службы грамадскай думкі, насельніцтва Беларусі найбольш занепакоена магчымасцю вострага палітычнага канфлікту ў рэспубліцы. Палавіна апытаных рэальна бачыць такую небяспеку. 31,9 працэнта насельніцтва баіцца грамадзянскай вайны.

У 1993 ГОДЗЕ з арміі ў Беларусі за злоўжыванні звольнена 12 афіцэраў і 2 прапаршчыкі, 51 ваеннаслужачы прыцягнуты да адказнасці. Расследуецца каля 100 крымінальных спраў. Парушэнні ў арміі — раскраданне ваеннай маёмасці — выраслі ў 1,5 раза.

СІНОД Беларускай праваслаўнай царквы прыняў рашэнне не браць удзелу ў Міжнародным фестывалі духоўнай музыкі "Магутны Божа", які праводзіўся ў Магілёве па ініцыятыве Беларускай каталіцкай грамады.

САВЕТ Міністраў Беларусі прыняў рашэнне аб адкрыцці Генеральнага консульства Рэспублікі Беларусь у горадзе Гаага (Каралеўства Нідэрланды). Генеральным консулам назначаны намеснік міністра замежных спраў У. Астапенка.

УСЛЕД за юнымі біёлагамі, што прынялі ўдзел у міжнароднай алімпіядзе ў Галандыі, адправіліся за мяжу матэматыкі. Таксама чацвёра школьнікаў, на гэты раз толькі з Мінска, якія перамаглі ў рэспубліканскай матэматычнай алімпіядзе, паехалі ў Стамбул на міжнародную.

КАМІТЭТ па архівах і справаводству пры Савеце Міністраў Беларусі і Генеральная дырэкцыя архіваў Польшчы падпісалі пагадненне аб супрацоўніцтве. Вынікам яго будзе найперш выданне зборніка дакументаў, прысвечаных паўстанню пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі.

РЭФАРМАТАРСКАЯ царква Беларусі, якая налічвае 440-гадовую гісторыю, сёння амаль што невядомая. Нагадаць аб ёй рашылі нешматлікія пратэстанты, якія наладзілі пікетаванне ля будынка Вярхоўнага Савета рэспублікі.

ЗА ПЕРШУЮ палову 1993 года ў Мінску адбылося 1 109 пажараў. Загінулі 22 чалавекі. Страты склалі 244 мільёны рублёў. 58 выпадкаў пажару здарылася па віне п'яных.

*АДРАДЖАЮЦЦА ХРАМЫ*



**З часоў вайны ў вялікай вёсцы Велікарыта Маларыцкага раёна не было сваёй царквы, свайго прыходу. Старадаўнюю драўляную спалілі фашысты.**

**І вось нядаўна сяльчане з дапамогай мясцовага калгаса "Рыта" вырашылі адрадзіць Божы храм. Будуецца ён на відным месцы, ля ўезду ў вёску, і, як гавораць, будзе самым прыгожым у раёне. Да яго ўзвядзення прыцягнуты вядомыя майстры па стварэнню такіх пабудоў з суседняй Валынскай вобласці Украіны, са Столінскага раёна. Асвячэнне новай царквы плануецца правесці восенню.**

**НА ЗДЫМКУ: на будаўніцтве новай царквы ў Велікарыце.**

# СЕЛЬСКАЕ СВЯТА





**Святочна і ўрачыста было ў вёсцы Лобча Лунінецкага раёна ў адну з нядзель ліпеня. Тут адбылося свята з прычыны 49-й гадавіны вызвалення раёна ад фашысцкіх захопнікаў.**

**На свяце не толькі гаварылі прамовы і ўспаміналі. У Лобчы адбыліся канцэрт, народныя гулянні, выставы самадзейнай творчасці і хатняй кулінарыі.**

**НА ЗДЫМКАХ: на свята; работу кулінараў ацэньвае журы.**

**Фота У. МЯЖЭВІЧА.**

ЛІСТ НА ІМЯ СТАРШЫНІ
ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
Станіслава ШУШКЕВІЧА

# ПРОСІМ НЕ АДМОВІЦЬ

Паважаны Станіслаў Станіслававіч! Просім Вашага рашэння аб далучэнні нашай вёскі да Беларускай рэспублікі, аддзяліўшы яе ад Украіны..." З такім пісьмом да Старшыні Вярхоўнага Савета рэспублікі Станіслава Шушкевіча звярнуліся жыхары вёскі Ніговішча Зарачнянскага раёна Ровенскай вобласці.

"Цяпер нам, састарэлым, вельмі дрэнна. Да ўкраінскага райцэнтра 45 кіламетраў. Да Пінска столькі ж. Але ў бок беларускага горада і асфальтаваная дарога ёсць, і аўтобусы ходзяць. Дабрацца ж да Зарэчнага — праблема.

Пакуль былі адзінымі грошы, мы ўсе пакупкі ў Пінску рабілі. А цяпер нашы ўкраінскія купоны ў беларускіх магазінах, дзе лепшае абслугоўванне, ніхто не прымае. Крыўдна. А большасць жа аднавяскоўцаў — беларусы. У такім жа становішчы і жыхары суседніх вёсак Омыт і Гарынічы. Яны таксама хочуць далучыцца да Беларусі".

Пракаменціраваць пісьмо карэспандэнт Белінфарма папрасіў старшыню Камісіі Вярхоўнага Савета па нацыянальнай палітыцы і пытаннях Садружнасці незалежных дзяржаў Міхаіла СЛЯМНЁВА.

— Беларусаў, якія жывуць у іншых рэспубліках, мы, вядома ж, у бядзе не пакінем, — заявіў Міхаіл Аляксандравіч. — І Беларусь, і Украіна з'яўляюцца прыхільнікамі Хельсінкскага пагаднення, у якім агаворваецца прынцып непарушнасці межаў. Таму ні адна з рэспублік не мае права ў аднабаковым парадку перасунуць мяжу ні на сантыметр. На гэта павінна быць добрая воля дзвюх рэспублік. Трэба адзначыць, што па гэтых пытаннях мы заўсёды знаходзілі ўзаемаразуменне з украінскімі калегамі. Таму я не адмаўляю магчымасці далучэння памежных вёсак Ніговішча, Омыт і Гарынічы да Беларусі, калі большасць іх жыхароў сапраўды жадаюць гэтага. А ўкраінскаму боку, відаць, адыдзе раўнацэнны ўчастак зямлі недзе ў іншым раёне.

Але гэта пытанне не сённяшняга дня. Запатрабуецца крыху цярпення. Спецыяльна створаная ўрадавая Камісія па дэлімітацыі і дэмаркацыі (удакладненню на карце і на мясцовасці) межаў працуе сёння над урэгуляваннем адносін з Літвой і Латвіяй. Пасля гэтага — чарга Украіны. Хаця, са свайго боку, мы будзем імкнуцца, каб паміж нашымі рэспублікамі захаваліся празрыстыя межы.

Пры вырашэнні падобных пытанняў будуць улічаны адносіны карэннага насельніцтва рэспублікі да нацыянальных меншасцей.

Пакуль жа абараняць інтарэсы грамадзян беларускай нацыянальнасці на тэрыторыі суседняй рэспублікі павінны супрацоўнікі пасольства Беларусі на Украіне.

# ЗА ШТО Б'ЮЦЦА ПРАФСАЮЗЫ?

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Мы дагэтуль імкнёмся вырашыць іх праз дзяржаўныя структуры, а між іншым, у Літве, дзе тым жа займаюцца прыватныя фірмы, бензін таннейшы, чым у Беларусі. Ды і ў Расіі велізарная частка нафтапрадуктаў знаходзіцца ў руках камерцыйных структур. Не будзем зараз абмяркоўваць, добра гэта, ці не, такая сітуацыя ўжо існуе, і трэба працаваць з улікам рэальнага становішча спраў.

Сёння відавочна для ўсіх, што ў нас вельмі няўдалая падатковая сістэма, якая не задавальняе ні дзяржаўныя прадпрыемствы, ні прыватныя структуры. Яна тармозіць працу і накіравана супраць вытворцы. Яе трэба мяняць, але ж нічога не робіцца, і яна працягвае "працаваць"... А што робіцца з прыватызацыяй! Гэтым працэсам трэба было кіраваць, пастаянна трымаць яго пад кантролем. А ў нас зараз ствараюць камісіі і канстатуюць: паўтары тысячы прадпрыемстваў парушылі ўмовы прыватызацыі, у многіх выпадках не выкананы закон... А між іншым, гэтае невыкананне і парушэнне было практычна запланавана... Усё гэта пагаршае ўмовы жыцця і выклікае незадавальненне людзей...

**— Як атрымалася, што прафсаюзы, якія займаліся пераважна размеркаваннем пуцёвак у санаторыі і дамы адпачынку, сталі рэальнай палітычнай сілай грамадства? Да таго ж, пасля поспеху свабодных прафсаюзаў у красавіку 1991 года, здаецца, ніхто ўжо не верыў, што "афіцыйныя" прафсаюзы змогуць адрадзіцца...**

— Ведаеце, прафсаюзы таксама вучацца. Яны і прафсаюзамі засталіся толькі таму, што змаглі навучыцца адчуваць настрой людзей. Але цяпер мы не толькі ўлоўліваем, чым жыве грамадства, імкнёмся аналізаваць сітуацыю, уносім прапановы, як можна дапамагчы канкрэтнаму прадпрыемству сёння ці заўтра, каб яно не спынілася. Трэба вельмі многа працаваць, [illegible]бы ні было гэта цяжка, ісці на заводы, прадпрыемствы, выступаць там, бывае, і крыўдныя словы чуць. А людзі заўсёды бачаць, хто толькі гаворыць, а хто дзейнічае, і самі вырашаюць, з кім яны. На мой пог[illegible] у апошні час свабодныя пр[illegible]юзы занадта ўжо захапіліся лозунгамі, а між іншым, вырашаць канкрэтныя пытанні куды складаней, чым заклікаць.

**— Мне падаецца, што калі б зараз за правы працоўных пачалі выступаць не вы, а свабодныя прафсаюзы, прэса і ўрад надалі б ім больш увагі.**

— Так, у апошні час мы адчуваем, што інфармацыю пра нас, нашу дзейнасць і пазіцыі ўлады імкнуцца замоўчваць. Федэрацыі прафсаюзаў вельмі часта кідаюць папрок, што мы бударажым народ, "узрываем" сітуацыю. "Калі становішча выйдзе з-пад кантролю, самі потым будзеце локці кусаць"... Што датычыцца свабодных прафсаюзаў, дык іх сёння нам у прыклад ставяць, маўляў, вы людзей на забастоўку падбухторваеце, а яны знайшлі кампраміснае рашэнне і падпісалі калектыўны дагавор. А тое, што мы тысячы такіх дагавораў заключылі, — гэта выгадна не заўважаць. Мы сталі нязручнымі. У нас атрымліваецца, нібы ўрад кіруе краінай, прымае законы, а народ, незадаволены ростам цэнаў і пагаршэннем умоў жыцця, перашкаджае яму.

**— Сярод патрабаванняў, выстаўленых Федэрацыяй прафсаюзаў Беларусі, было — не дапусціць абвальнага спаду вытворчасці, скарачэння працоўных месцаў і ўзнікнення масавага беспрацоўя. Ці рэальна гэта зараз?**

— Мы разумеем, што ў той сітуацыі, у якой знаходзіцца наша рэспубліка, беспрацоўе непазбежнае. Іншае пытанне, якім будзе яго ўзровень. Дзяржкампрацы дае прагноз, што да канца гэтага года на вуліцы апынуцца 670 тысяч чалавек. Але ж для рэспублікі гэта азначае катастрофу! Лічыцца, што сацыяльна дапушчальны ўзровень беспрацоўя для любой, нават добра развітой і заможнай дзяржавы — 2,5 працэнта ад агульнай колькасці насельніцтва. Калі гэтая лічба будзе вышэйшай, і сацыяльнае і палітычнае становішча рэзка абвострыцца. Дапусціць такі ўзровень беспрацоўя — самагубства. А спыніць гэты працэс можна, ажыццявіўшы карэкціроўку рэформаў, перагледзеўшы падатковую палітыку, праз адтэрміноўку плацяжоў, выдзяленне крэдытаў тым прадпрыемствам, якія знаходзяцца ў асабліва цяжкім фінансавым становішчы.

**— Як вы ставіцеся да магчымасці агульнарэспубліканскай забастоўкі?**

— Думаю, што зараз прафсаюзы не будуць рабіць крайніх захадаў, мы пойдзем іншым шляхам. Выканаем усе свае абавязацельствы і паглядзім, якой будзе рэакцыя Вярхоўнага Савета. Нашы дзеянні будуць адпаведнымі яго рашэнням, скажам так.

**— Як адчуваюць сябе прафсаюзы ў апазіцыі да Вярхоўнага Савета, да дзяржаўнай улады?**

— Сітуацыя складаная, і адчуваем мы сябе няўтульна, асабліва калі выступае прэм"ер-міністр, які гаворыць, што гэта, маўляў, прафсаюзныя лідэры за ўладу ці за крэслы свае змагаюцца. Памойму, гэта несур'ёзна і сказана пад уплывам эмоцый.

**— Раней гаварылі: "Прафсаюзы — школа камунізму". Чаму сёння яны вучаць працоўных?**

— Калі я толькі-толькі прыйшоў працаваць у прафсаюзы, вырашыў, што трэба з нечага пачынаць знаёмства з новай работай, хаця б з тэорыі. Я пачаў шукаць матэрыялы на гэтую тэму, знайшоў і гэтыя словы Леніна. Дык вось, там напісана, выбачайце, цытую па памяці: прафсаюзы — школа абароны сваіх інтарэсаў, школа гаспадарання, школа салідарнасці (так-так!) і недзе на апошнім месцы — камунізму. Цэлы ланцужок вызначэнняў, з якіх пакінулі самае пустое. А вучым сёння менавіта гэтаму, забытаму...

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

"БЕ-ЛА-РУСЬ-93"

# МАЛАДЫЯ ХОЧУЦЬ ЖЫЦЬ

Шмат год таму на мяжы трох рэспублік па ініцыятыве Пятра Машэрава быў створаны Курган дружбы, дзе па святах збіраліся на сустрэчы ветэраны і мясцовыя жыхары. Мінуў час, Курган застаўся, а вось што датычыцца дружбы, то тут адбыліся некаторыя змены. У прыватнасці, высветлілася, што партызанскі рух і абарона Радзімы ў час вайны, якія беларусы лічаць гераічнымі старонкамі сваёй гістор[illegible] [illegible]латышы разглядаюць як ганьбу і акупацыю. Вось так і сконч[illegible] гэтая традыцыя. Аднак з 15 па 18 ліпеня там зноў было шумна і людна, бо ў гэтым месцы другі раз пачне сваю работу міжнародны маладзёжны лагер "Бе-Ла-Русь". Тры суверэнныя рэспублікі — Беларусь Латвія і Расія далі назву гэтай акцыі, якую праводзяць тут тры буйнейшыя маладзёжныя арганізацыі гэтых краін. Вось што расказаў пра гэта Аляксандр ФЯДУТА, які ўзначальвае Саюз моладзі Рэспублікі Беларусь:

— Ідэя такога лагера ўзнікла ў нас тады, калі зразумелі, што старыя сувязі паміж моладдзю нашых рэспублік разбураны і трэба многае будаваць спачатку. Можна, канешне, яшчэ доўга ўспамінаць аб гістарычных і іншых спрэчках паміж нашымі дзяржавамі, але ці не лепш забыцца пра іх і пачаць наладжваць новыя сувязі. Хопіць абарочвацца на мінулае і пакутаваць з-за памылак тых, хто быў да нас. Я, між іншым, не хачу адказваць ні за дзеянні АМОНа на Вільнюскім тэлецэнтры, ні за Чарнобыль, ні тым больш за тое, што было ў гады вайны. Я лічу, што пра злое трэба забывацца, інакш яно будзе праследаваць нас і бясконца паўтарацца. Давайце падумаем пра будучыню. А будычыня, між іншым, гэта мы, моладзь. Вось так і нарадзіўся дэвіз свята: "Мы — маладыя, мы хочам жыць". Чаму б не дапамагчы маладым людзям знайсці сабе новых сяброў у блізкім замежжы ці сустрэцца с старымі? Такія сустрэчы і ёсць пачатак таго, што называецца прыгожымі словамі "дружба народаў".

— Ці ёсць у вашага лагера якія-небудзь палітычныя мэты?

— Ведаеце, у нас быў дыскусійны клуб, дзе абмяркоўваліся палітычныя праблемы, мы многа дыскутавалі аб палітыцы і эканоміцы нашых дзяржаў, але мы не падпісваем ніякіх пагадненняў і не ствараем якіх-небудзь блокаў ці саюзаў. Калі гаварыць аб выніках нашай першай сустрэчы, я сфармуляваў бы іх так: мы сустрэліся, пазнаёміліся, лепш пазналі адзін аднаго. Давайце не будзем ставіць перад сабою палітычныя мэты і прымаць гучныя рэзалюцыі, якія потым хутчэй за ўсё проста забываюцца.

Мінулы лагер абышоўся ў суму, сёння нават несур'ёзную, — 675 тысяч рублёў. Гэты будзе каштаваць ужо не адзін мільён. Мы не самыя заможныя арганізацыі, але ўпэўнены: такія сустрэчы арганізоўваць трэба, колькі б яны ні каштавалі. Хто ведае, можа праз гадоў 15–20 з'едуцца на міжнародныя перамовы тры лідэры трох дзяржаў, прыгледзяцца адзін да аднаго і ўспомняць, што шмат год таму ўжо сустракаліся ў нашым лагеры...

На гэтым можна было б паставіць кропку, але вось на якія разважанні наводзіць гэтая падзея: Савецкі Саюз, які існаваў не так даўно, быў хаця і добра "змураваным", ды, відавочна, штучным утварэннем. Але межы, што раптам падзялілі рэспублікі, таксама не падаюцца натуральнымі. Ва ўсякім разе яны куды бліжэй да сэрцаў палітыкаў, якія іх стварылі і якія перасякаюць іх на чорных лімузінах, не спыняючыся на мытнях, чым простых людзей. І якія б рашэнні ні прымаліся на вяршынях улады, народы будуць заўсёды шукаць і знаходзіць спосабы сябраваць, пераадольваць штучныя перашкоды. Думаецца, што ў іх гэта будзе атрымлівацца лепш і больш паспяхова, чым у палітыкаў... Сведчанне таму — міжнародны маладзёжны лагер "Бе-Ла-Русь-93", за якім, хочацца верыць, будзе "Бе-Ла-Русь-94, 95" і гэтак далей.

**В. АНАТОЛЬЕВА.**

## ПЕРШЫ З'ЕЗД БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ АДЫШОЎ У ГІСТОРЫЮ

# НЕ ВЫПУСЦІМ З РУК СВАЮ ЎЛАСНУЮ ДОЛЮ

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).

Працэс адраджэння нацыянальнай самасвядомасці і адчуванне беларусаў гаспадарамі на сваёй уласнай зямлі спыніць немагчыма. Не могуць на яго паўплываць і такія некарэктныя і непрыстойныя заявы, як тая, што пераказваецца ў газеце "7 дней" за 10 ліпеня 1993 года "Каб мовы не сталі ворагамі". Народны рух Беларусі зазначае, гаворыцца ў заметцы, што беларускае грамадства шматмоўнае, і таму дзеянні, накіраваныя на дэрусіфікацыю і беларусізацыю рускамоўнага насельніцтва, — сапраўдны гвалт над людзьмі. (Так і хочацца пракаменціраваць: дай Божа, каб беларусы загаварылі на сваёй мове, не то, каб над іншымі "гвалт" учыняць). У заяве падкрэсліваецца, што "моўная палітыка дзяржавы павінна грунтавацца на збалансаванасці інтарэсаў усіх моўных абшчын — беларусаў, рускіх, палякаў, яўрэяў, заходніх палешукоў і г.д.". Інакш не будзе трывалай нацыянальнай згоды ў грамадстве. (Што гэта: пагроза? перасцярога?). Як адзін з прыкладаў гвалтоўнай беларусізацыі прыводзіцца Першы з'езд беларусаў свету. "Народны рух прапанаваў прыпыніць дзеянне Закона аб мовах (а закон яшчэ і не пачаў, як належыць, дзейнічаць) як антыгуманнага і правакацыйнага" і асудзіў тых дзяржаўных дзеячаў з вышэйшага эшалона ўлады, якія прынялі ўдзел у рабоце Першага з'езда беларусаў свету". (Вось вам і дэмакратычнае грамадства!).

Адказам на гэту заяву, а таксама ўсім тым, каму чужыя ідэі Першага з'езда беларусаў свету і наогул адраджэння, могуць быць словы праваслаўнага святара а. Георгія Латушкі: "Пошукі ворагаў і чужых правінаў — гэта не хрысціянскі шлях. Не варта рабіць з сябе суддзяў. Больш годны шлях не асуджаць, а разумець іншых, уласным прыкладам клікаць да адраджэння, данесці да народа тое, што адбывалася на з'ездзе".

Многія делегаты расказвалі, як на вуліцах Мінска, у метро, з гарадскімі таксістамі ў іх завязваліся гаворкі, якія яны вялі на беларускай мове. І часцей за ўсё ім адказвалі таксама па-беларуску, з зацікаўленнем слухаючы расказ непасрэдных удзельнікаў падзеі, што адбывалася ў оперным тэатры. З чаго нашы суайчыннікі рабілі выснову, што не ўсё згублена і беларусы абавязкова адродзяцца як нацыя.

"МЫ З'ЕХАЛІСЯ ў Мінск у імя Беларусі, — сказаў Янка Запруднік, — і пры розных поглядах мусім працаваць у імя Беларусі. Пераадолеўшы ідэйную і прасторавую раскіданасць, мы дасягнулі вышэйшай ступені нацыянальнага існавання. Сышоўшыся грамадой, адчулі сваю сілу, якая павінна быць накіравана на карысць Бацькаўшчыне".

А ўсяго на сход па запрашэнню Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" з'ехалася больш тысячы дэлегатаў, прадстаўнікоў беларускай дыяспары далёкага і блізкага замежжа. Выпраўляючы ў няблізкую дарогу сваіх прадстаўнікоў, аўстралійскія беларусы прасілі А.Шнэка паспрыяць, каб гэты з'езд стаў мостам паміж Радзімай і імі, адарванымі ад зямлі бацькоў віхурамі вайны або эканамічнымі праблемамі.

Віцэ-прэзідэнт АН Беларусі, сябра аргкамітэта і рады "Бацькаўшчына" Радзім Гарэцкі ў дакладзе "Беларуская ідэя і адбудова беларускай дзяржаўнасці" кінуў вокам на 1000-гадовую гісторыю нашага народа, спыніўшыся на найбольш вызначальных яе момантах. Надышоў час, сказаў дакладчык, усвядоміць, хто мы ёсць і што мы за народ. Доўгія гады і дзесяцігоддзі нас пераконвалі, што Беларусь да 1917 года ніколі не мела сваёй дзяржаўнасці, "забываючы", што было Вялікае Княства Літоўскае са сталіцай у Навагрудку, а потым у Вільні. Што дзяржаўнай мовай у ім была беларуская мова і што наша сярэдневяковая дзяржава мела адносна дэмакратычны лад. Паступовая страта дзяржаўнасці ў выніку аб'яднання з Польшчай, а потым далучэнне да Расіі прывялі за заняпаду краю. І ўсё ж у самыя змрочныя часы свяціўся агеньчык беларускасці, не даючы канчаткова згаснуць нацыянальнай ідэі, якая цяпер нарэшце мае шанц напоўніцца са[illegible]ўдным зместам. Белару[illegible] гістарычная навука скажалася, замоўчвалася, падраблялася ў залежнасці ад таго, якому ідалу служыла. І цяпер яна атрымала магчымасць для актыўна-праўдзівага, глыбокага даследавання нашай [illegible]атвяковай і багатай гістор[illegible] тым ліку і складанага пакручастага шляху беларускай ідэі. У гэтым плане карысную справу робяць замежныя суродзічы, асабліва з Амерыкі, Аўстраліі, шэрагу еўрапейскіх краін.

Расказваючы аб беларускай эміграцыі, дакладчык зазначыў, што наша нацыя — адна з самых раскіданых па свеце. Дастаткова сказаць, што кожны трэці беларус (а можа і болей) жыве паза межамі сваёй Бацькаўшчыны. Вучоныя падлічылі, што калі б беларусы натуральна жылі на сваёй этнічнай тэрыторыі, ды не разбуральныя войны, у выніку якіх гінулі людзі, то цяпер было б 25—30 мільёнаў беларусаў.

Наша рэспубліка ступіла на шлях суверэннасці і незалежнасці, будаўніцтва ўласнай дзяржаўнасці. І дзеля ажыццяўлення гэтай высокай мэты неабходна паяднанне сіл і намаганняў усіх нас — і жыхароў Беларусі, і беларусаў замежжа. Разам мы — даволі значная ў свеце сіла, здольная адолець многія беды.

Выбіраючы свой шлях, мы павінны ўпісацца ў агульнаеўрапейскі інтэграцыйны працэс і разам з тым аднавіць, умацаваць сваю дзяржаўнасць, пазбегнуць небяспекі ператварыцца ці то ў правінцыю Еўропы, ці то ў перыферыю Расіі, сказаў у заключэнне Р. Гарэцкі.

ДАВОЛІ традыцыйным быў пачатак з'езда, калі прысутныя ў зале ўбачылі вялікі прэзідыум, дзе хапіла месца і гасцям, і гападарам. Найбольш адметную і цікавую старонку гэтых трох дзён склалі выступленні землякоў, якія, па іх жа словах, гаварылі, як хацелі і пра што хацелі. У іх выступленнях гучалі любоў да Бацькаўшчыны і трывога за яе сённяшні крытычны стан, расказ аб рабоце суполак і прапанова дапамогі, парады, якім шляхам ісці далей, падзяка за магчымасць пабываць дома, бо дзе б і колькі б ні вандраваў чалавек, ён адчувае радасць ад сустрэчы з зямлёй, дзе нарадзіўся, дзе багаў па грыбы і ягады.

"Пятнаццацігадовым хлапчуком паехаў я адсюль, — пачаў сваё выступленне Р.Завістовіч са Злучаных Штатаў, — і вось сёння з невымернай радасцю гавару: "Добры дзень, Беларусь". З горыччу зазначае зямляк, што Радзіма перажывае палітычны, эканамічны і культурны крызіс. І самым страшным здаецца яму духоўная абыякавасць народа. Чаму ён цураецца мовы, якой узнагародзіў яго Бог? "І хоць Радзіма выкрасліла нас, мы не пераставалі рабіць для яе. Інфармавалі заходні свет пра Беларусь, фарміравалі прыхільнасць да яе".

"Беларусы вяртаюцца да саміх сябе", — сказаў Янка Запруднік пра сваё пакаленне. І прыносяць з сабой выгнаннікі з далёкіх краін перш за ўсё любасць да Бацькаўшчыны. Бо мен[illegible] ўдалечыні ад яе чалавек на[illegible]ьш востра адчувае прыцягненне роднай зямлі, разумее яе значэнне ў сваім жыцці, нібы музыка гучыць для яго матчына мова. 50-гадовая гісторыя беларускай эміграцыі, якая захавала сваю мову, культу[illegible] звычаі, здабыла прызнанне [illegible]агу ў чужых краінах, засведчыла жыццястойкасць беларускага народа. Навуковец, грамадскі дзеяч, рэдактар газеты "Беларус", што выходзіць у Нью-Йорку, Янка Запруднік вельмі хутка набірае ачкі і на Беларусі. Падсумоўваючы зробленае на з'ездзе беларусаў свету, наш зямляк сказаў: "Сёння адбылося нешта большае, чым прыняццё рэзалюцый. Сёння адбыўся творчы акт новага палітычнага значэння. Гэтая здольнасць нашая збірацца разам, не зважаючы на ўсе спрэчкі, дае найбольшую гарантыю таго, што мы на правільным шляху, хаця няпростым, які нярэдка ідзе пад гару. Але мы бачым кірунак, перспектыву, ведаем, што выйдзем на раўніну і тады будзе лягчэй".

У НАЙБОЛЬШ складаных варунках апынуліся сёння беларусы блізкага замежжа, асабліва ў Малдове і краінах Балтыі, дзе перад імі паўстае мноства праблем, з якімі ўласнымі сіламі ім не справіцца, і яны звяртаюцца за падтрымкай да нашага ўрада і іншых дзяржаўных структур. Парламент і ўрад Беларусі павінны аказаць ім дапамогу і ў палітычным, і ў эканамічным плане, а жадаючым дапамагчы вярнуцца на Бацькаўшчыну, гучала ў многіх выступленнях. Асабліва датычыцца гэта вайскоўцаў, што трапілі за межы Беларусі не па сваёй волі. Страціць працу ці да 1 студзеня 1994 года вывучыць дзяржаўную (румынскую) мову — такая праблема стаіць бе-рад беларусамі Малдовы. І яны просяць аб дамоўленасці паміж дзвюма краінамі на дыпламатычным узроўні, каб была для іх зроблена хоць якая палёгка. Просяць яшчэ таксама, каб Міністэрства культуры прысылала да іх мастацкія калектывы, беларускія фільмы, падручнікі, кнігі, бо ўсё гэта дапаможа захаваць сваю культуру, мову, не траціць повязі з Беларуссю.

Не менш складанае становішча беларусаў у Латвіі і Эстоніі, дзе яны не маюць грамадзянства, не з'яўляюцца яны і грамадзянамі Беларусі. Кожны прыезд на Беларусь, да сваякоў стаў праблемай. Дзяржаўная мяжа раздзяліла Беларусь і Латвію, і цяпер на ўезд у кожную з краін патрэбны віза, замежны пашпарт, валюта. І зноў узнікае пытанне аб двайным грамадзянстве, пытанне, не вырашанае пакуль што, бо не высветлена, каму двайное грамадзянства выгадна — канкрэтнаму грамадзяніну або канкрэтнай дзяржаве. На заключнай прэс-канферэнцыі міністр замежных спраў рэспублікі Пётр Краўчанка сказаў:

— Я думаю, не пакрыўдзяцца нашы суайчыннікі з далёкага замежжа, калі я скажу, што найбольшай увагі сёння патрабуюць беларусы з блізкага замежжа. Многія з іх апынуліся цяпер у даволі цяжкім становішчы без грамадзянства. Беларускай дзяржаве неабходна паклапаціцца ў першую чаргу пра іх.

Можна спадзявацца, што нешта зрушыцца ў лепшы бок, хаця землякі, якія былі на з'ездзе беларусаў блізкага замежжа, успамінаюць, што і там міністр замежных спраў абяцаў ім сваю падтрымку...

На Першым з'ездзе беларусаў свету адбыліся таксама перавыбары кіраўнікоў Згуртавання "Бацькаўшчына", абрана рада, у склад якой увайшлі і беларусы блізкага і далёкага замежжа. Сталася такое магчымым таму, што з'езд сваё пасяджэнне 10 ліпеня аформіў як з'езд Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына". Пачэсныя абавязкі прэзідэнта гэтай грамадскай арганізацыі яе ранейшы прэзідэнт Васіль Быкаў перадаў не менш вядомаму на Беларусі чалавеку, віцэ-прэзідэнту Акадэміі навук Беларусі Радзіму Гарэцкаму.

Падводзячы вынікі з'езда, новы прэзідэнт "Бацькаўшчыны" сказаў: "Тут былі абмеркаваны многія праблемы, якія хвалююць беларусаў на Беларусі, беларусаў у блізкім і далёкім замежжы. Задача стаяла — аб'яднацца, згуртавацца.





**Здымкі зроблены Віктарам СТАВЕРАМ у час работы з'езда ў глядзельнай зале опернага тэатра.**

(Заканчэнне на 6-й стар.).

# ВЯРТАННЕ

## ЖЫЦЦЯПІС БАРЫСА УЛАДЗІМІРАВІЧА КІТА



Барыс Кіт мог працаваць у любым з гэтых цэнтраў, як выкладчык з вялікім вопытам. Ён меў першакласныя характарыстыкі і падзякі ад рэктарата Мэрылендскага універсітэта ў Вашынгтоне. Але ён выбраў Франкфурт-на-Майне, стаў прафесарам матэматыкі Еўрапейскага аддзела Мэрылендскага універсітэта, мэтай якога было абслугоўваць амерыканцаў, што пражываюць у Еўропе. Сярод яго вучняў шмат амерыканцаў, якія сталі затым вядомымі вучонымі. Пазней Барысу Кіту было нададзена званне заслужанага прафесара Мэрылендскага універсітэта — найвышэйшая адзнака і прызнанне яго заслуг у педагогіцы. Звычайна цырымонія заканчэння навучальнага года адбываецца ў Гейдэльбергу (галоўным цэнтры Мэрылендскага універсітэта). Студэнты тут атрымліваюць свае дыпломы бакалаўраў, і ў гэты ж дзень кожны год аднаму з прафесараў уручалі ганаровы дыплом доктара (яго мелі Адэнаўэр, Брант і маюць Коль і Геншар). У 1987 годзе Барысу Кіту быў уручаны дыплом Заслужанага прафесара на адным з такіх актаў, а ў 1990 годзе ў гэтым жа Гейдэльбергу Барыс Кіт атрымаў дыплом Ганаровага прафесара.

Адначасова з педагагічнай дзейнасцю ў Еўропе Барыс Кіт пачаў працаваць над доктарскай дысертацыяй. Ён звязаўся з адным з прафесараў Рэгенсбургскага універсітэта — вядомым матэматыкам Тодам, які згадзіўся быць афіцыйным кіраўніком яго работы. Дысертант прапанаваў свайму прафесару-кіраўніку некалькі тэм доктарскіх дысертацый. Спыніліся на жыцці і творчасці аднаго з найвялікшых матэматыкаў XX стагоддзя Антона Зыгмунда, які жыў у Чыкага на той час і ў якога абаранілася каля 100 дактарантаў. Кіраўнік Барыса Кіта зняў клопат дакументальнага афармлення са свайго дысертанта, Рэгенсбургскі універсітэт прызнаў усе дыпломы Барыса Кіта, у тым ліку і дыплом Віленскага універсітэта. Ён мог спакойна працаваць над доктарскай, якую паспяхова абараніў у 1982 годзе на вучоным савеце Рэгенсбургскага універсітэта. Яна выйшла асобнай кнігай (1983) пад назвай "Antoni Zygmund, his life and his contribution to the mathematics of 20th century".

Барыс Кіт атрымаў навуковае званне доктара філасофіі ў галіне матэматыкі і гісторыі навукі, што азначала павелічэнне прэстыжу, прафесійны рост. Гэта было афіцыйнае афармленне яго вялікай, шматгадовай дзейнасці навукоўца і педагога, адкрывала доступ да звання прафесара, акадэміка. Увесь перыяд жыцця ў Германіі, нягледзячы на занятасць выкладчыцкай справай, напісаннем дысертацыі, Барыс Кіт працягваў займацца і навуковай дзейнасцю, публікаваў у часопісах Амерыкі і Германіі навуковыя артыкулы (іх выйшла звыш 30), быў пастаянным дэлегатам усіх Міжнародных астранаўтычных кангрэсаў, якія адбываліся амаль штогод, пачынаючы з 1958 года, выступаў з дакладамі і паведамленнямі. Як удзельнік гэтых кангрэсаў, ён пабываў у Амстэрдаме, Токіо, Парыжы, Афінах, Брэмене, Нью-Йорку, Канстанцы, Бруселі, Вене, Зальцбургу, Мюнхене, Кобленцы, Луізіане, Інсбруку, Брайтане, Малазе, Дрэздэне, Манрэалі, іншых гарадах і краінах. На гэтых кангрэсах адбываліся новыя знаёмствы, цікавыя сустрэчы, гутаркі з вядомымі ва ўсім свеце людзьмі: вучонымі, даследчыкамі, касманаўтамі. У кастрычніку 1978 года на Астранаўтычным кангрэсе ў Мюнхене Барыс Кіт пазнаёміўся з беларускім касманаўтам Пятром Клімуком. Сустрэліся два славутыя беларусы, і Барыс Уладзіміравіч з вялікай зацікаўленасцю распытваў свайго земляка пра Беларусь, яе жыццё, падзеі, радуючыся магчымасці пагаварыць на роднай мове.

Трэцяга кастрычніка 1991 года ў гатэлі Хілтан у Атаве — сталіцы Канады падчас урачыстага пасяджэння Міжнароднай Акадэміі Астранаўтыкі разам з Каралеўскай Акадэміяй Канады Барысу Кіту быў уручаны дыплом акадэміка Міжнароднай Акадэміі Астранаўтыкі, галоўная кватэра якой знаходзілася ў Парыжы. Дыплом уручаў доктар Георг Мілер — прэзідэнт Міжнароднай Акадэміі Астранаўтыкі (былы кіраўнік праекта "Apollo", падарожжа амерыканцаў на Месяц). Сумеснае пасяджэнне дзвюх акадэмій было наладжана ў сувязі з Міжнародным кангрэсам у Манрэалі. Гэта быў кульмінацыйны момант з усёй астранаўтычнай і навуковай кар'еры Барыса Кіта. Рэктарат Мэрылендскага універсітэта разаслаў у сувязі з гэтым [illegible] навукоўцам, прафесарам [illegible]дамленне аб выбранні Барыса Кіта акадэмікам Міжнароднай Акадэміі Астранаўтыкі.

Барыс Кіт, як акадэмік з сусветным імем, удастоены гонару быць занесеным у самыя прэстыжныя навуковыя [illegible]веднікі свету. Яго біягр[illegible], звесткі пра навуковую дзейнасць змешчаны ў энцыклапедыі "Амерыканскія вучоныя" ("Dictionary of international Biography"), у біяграфічным даведніку "Брытанская каралеўская блакітная кніга" ("Royal Blue Book"), у вядомым слоўніку "Хто ёсць хто ў касманаўтыцы" (Wh's who in Space"). Біяграфія Барыса Кіта разам з біяграфіямі многіх іншых славутых вучоных укладзена ў капсулу часу, якая знаходзіцца ў бібліятэцы Роберта Годарда ў Вашынгтоне (капсула будзе адкрыта праз 500 гадоў). Так здзейсніўся Барыс Уладзіміравіч Кіт гістарычна, так стаў вядомым у гісторыі свету.

* * *

На сваёй Бацькаўшчыне ён становіцца вядомым толькі цяпер, калі Беларусь атрымала незалежнасць. "Для мяне гэта галоўная падзея XX стагоддзя, — гаворыць Барыс Уладзіміравіч. — Нарэшце, пасля тысячы гадоў змагання, цярпення, няволі, усялякіх акупацыяў, наш народ атрымаў сваю незалежнасць, поўную суверэннасць, прызнаную ўсімі іншымі народамі. Такога яшчэ не было ў нашай гісторыі". Гэту вялікую падзею Барыс Уладзіміравіч адзначыў прыездам на Радзіму, што выклікала хвалю публікацый, успамінаў, сустрэч з тымі, хто быў знаёмы з ім у маладыя гады. І, вядома ж, была наладжана сустрэча настаўніка з былымі вучнямі ў Маладзечне, на якой не было канца радасным і сумным успамінам:

"Я і некаторыя жыхары нашага горада добра памятаем Барыса Уладзіміравіча, калі яму было крыху больш за 30 год. Гэта быў вельмі інтэлігентны чалавек. Тактоўны ў адносінах як да навучэнцаў, так і выкладчыкаў школы. Руплівы ў арганізацыйных справах і па-бацькоўску чулы да кожнага з нас, юнакоў і дзяўчат, якія наведвалі гэту школу як з самога Маладзечна, так і з навакольных вёсак. Адчувалася, што галоўнай рысай усёй яго дзейнасці была шчырая адданасць асветніцкай справе ў плыні нацыянальнага адраджэння сярод беларускай моладзі..."

"...Майму пакаленню пашчасціла мець вас за настаўніка, які аддаваў сваё здароўе і сілу, каб адукаваць нас, малодшых, паставіць на шлях да лепшае будучыні, зрабіць нацыянальна свядомымі. Наша падзяка вам бязмежная..."

"...Мяне кранула і ўзрушыла, што за такі доўгі час вы не забылі Радзіму і беларускую мову і цяпер так актыўна дапамагаеце нам перажыць цяжкі час..."

"...Гэта быў нялёгкі шлях — пачаць у чужой краіне з нуля і дасягнуць такіх вышынь..."

"...Аб вашай дабрыні, чалавечнасці ў мяне засталіся самыя светлыя ўспаміны. Памятаю, як вы ў чорным гарнітуры, малады, прыгожы, дэманстравалі на адным з інстытуцкіх вечароў, як трэба танцаваць мазурку..."

"...Цяжка ўявіць: праз паўвека мы сустрэліся з вамі, дырэктарам, якога паважалі і любілі... Вы — чалавек, які не можа жыць спакойна, для себя. Вы, відаць, народжаны рабіць дабро. Такіх людзей на свеце мала..."



**Мінск. 16.07.1992 г. Сустрэча Б. КІТА ў Скарынаўскім цэнтры з М. ТКАЧОВЫМ і іншымі супрацоўнікамі.**

Былы вучань Барыса Кіта, цяпер прафесар медыцыны, вядомы на Беларусі хірург Пётр Маркавіч Кузюковіч, расказваючы аўтару гэтых радкоў пра гады навучання ў гандлёвым інстытуце і пра сустрэчу з Барысам Уладзіміравічам, захапляўся унікальным талентам свайго настаўніка выкладаць матэматыку, выключна даходліва тлумачыць гэты складаны прадмет вучням. І ўжо пазней, калі Пётр Маркавіч сам стаў навучаць студэнтаў, ён цалкам пераняў методыку выкладання Барыса Кіта-педагога. Ніколі не думаў прафесар, што яму давядзецца пабачыць свайго настаўніка, пра якога нічога не чуў усе гэтыя 50 гадоў. З гонарам за беларусаў гаварыў ён пра вялікія здольнасці Барыса Кіта як вучонага, які змог стаць паплечнікам і працаваць разам з сусветна вядомымі людзьмі, захаваўшы свой патрыятызм, любоў да Бацькаўшчыны, што выхоўвалася ў яго з маладых гадоў. "Кіт мог бы, — гаварыў прафесар Кузюковіч, — скончыўшы універсітэт, пайсці працаваць у любую польскую прэстыжную гімназію, але вырашыў вучыць бедных беларускіх дзяцей. І ў перыяд вайны, калі ён арганізаваў гандлёвы інстытут, мы адчувалі тут толькі свой родны беларускі дух, толькі беларускае ўзгадаванне. Гэты настрой [illegible]раў Барыс Кіт разам з [illegible]рускімі настаўнікамі. Дарэчы, многіх з іх ён выратоўваў з лагераў ваеннапалонных, даваў прытулак і работу. Ад дырэктара залежала, што ў інстытуце былі такі дэмакратызм, з'яднанасць. Ён імкнуўся дац[illegible]м усебаковую адукацыю, [illegible]абліва гуманітарную. Працавалі факультатывы па музыцы, жывапісу, выкладалася эстэтыка, этыка. Дыплом гандлёвага інстытута даў, напрыклад, мне магчымасць паступіць у медыцынскі інстытут, і два першыя гады, калі вывучаліся агульнаадукацыйныя прадметы, мне тут не было чаго рабіць: такой грунтоўнай была папярэдняя падрыхтоўка.

Мяне здзіўляе і захапляе шчырая беларускасць Барыса Кіта. Другі на яго месцы задаволіўся б дасягнутым, спакойна спажываў плён сваёй нялёгкай працы і сусветнай вядомасці, а ён, нягледзячы на тое, што амаль быў забыты на Беларусі, вярнуўся, каб зрабіць штосьці карыснае для Бацькаўшчыны. Цяжка і крыўдна ўсведамляць, што такія людзі вымушаны былі пакідаць сваю Радзіму, свой народ і працаваць за мяжой, аддаючы веды і талент чужой краіне. Але і там ён зрабіў шмат для роднай Беларусі, даказаў, што і беларусы нечага вартыя, не горшыя за іншых. Ён праславіў беларускую нацыю, якая павінна ведаць яго, як ведае і памятае сваіх слаўных сыноў".

Але не толькі са сваімі былымі вучнямі сустракаўся Барыс Уладзіміравіч улетку 1992 года, калі прыехаў на Беларусь. Ён пабываў у Акадэміі навук, пазнаёміўся з акадэмікамі Ф. Фёдаравым, Р. Гарэцкім, членам-карэспандэнтам В. Грыбкоўскім, які падараваў яму сваю кнігу "Лазеры" (дарэчы, Барыс Уладзіміравіч асабіста ведаў Прохарава, Басава — таленавітых рускіх вучоных, даследчыкаў лазераў). Яго прыняў міністр замежных спраў Беларусі П. Краўчанка, ён быў цёпла сустрэты ў калектыве Беларускай энцыклапедыі, які ўзначальваў тады Міхась Ткачоў. Вядомы вучоны, грамадскі дзеяч, да якога Барыс Кіт ставіўся з вялікай павагай, паспеў да заўчаснай сваёй смерці пакінуць у кнізе "Вялікае мастацтва артылерыі" (серыя "Нашы славутыя землякі") сваё вызначэнне месца Барыса Кіта ў гісторыі навукі: "І сёння, гаворачы пра стваральнікаў ракетнай тэхнікі, мы павінны ўсведамляць, што сярод выдатных ракетчыкаў і інжынераў побач з беларусам К. Семяновічам, ангельцам У. Конгрэвам, французам Р. Эно-Пельтры, амерыканцам Р. Годардам, немцамі Г. Обертам і В. фон Браўнам, рускімі К. Цыялкоўскім і С. Каралёвым назаўсёды прапісалася імя Барыса Кіта".

Скрануўся лёд адчужанасці, бяспамяцтва і на Бацькаўшчыне ў адносінах да тых, хто не па сваёй волі і без усялякай віны вымушаны быў пакідаць Радзіму. Дарэчы, першынство ў адкрыцці імя Барыса Кіта на Беларусі належыць заснавальніку Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, дырэктару Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны, прафесару Адаму Мальдзісу, які звярнуўся нядаўна да прэзідэнта АН Л. Сушчэні з прапановай аб абранні Б.У. Кіта — акадэміка Міжнароднай Акадэміі Астранаўтыкі — замежным членам Акадэміі навук Беларусі, характарызуючы яго як актыўнага і працавітага навукоўца ў галіне гісторыі астранаўтыкі і матэматыкі, энцыклапедыста, які валодае унікальнымі звесткамі па гісторыі адукацыі ў Беларусі, гісторыі беларускага нацыянальнага руху. Сам Барыс Кіт, памятаючы сваю асветніцкую працу ў беларускім школьніцтве, напоўнены жаданнем зрабіць штосьці карыснае, практычнадзейснае для Бацькаўшчыны. Гэту добрую традыцыю ён ніколі не перапыняў, дапамагаў беларусам-землякам на эміграцыі: паэту Масею Сяднёву садзейнічаў у выданні кніг, матэрыяльна дапамагаў беларускаму радыё ў Аўстраліі (г. Пэрт) у станаўленні і наладжванні рэгулярных радыёперадач для беларусаў, якія жывуць на гэтым далёкім кантыненце. Ён быў адным з заснавальнікаў беларускага музея ў нямецкім горадзе Ляймэне. Цяпер ён перадаў сваю навуковую і асабістую спадчыну ў Навагрудскі краязнаўчы музей, дзе адкрыты мемарыяльны пакой Барыса Кіта і дзе, дарэчы, знаходзіцца яго партрэт, намаляваны беларускай мастачкай Раісай Сіплевіч, якая надзвычай тонка і па-мастацку грунтоўна змагла раскрыць рысы свайго славутага земляка, падкрэсліць сціпласць, чалавечнасць шчырага беларуса і знакамітага вучонага. Мы бачым яго ў прафесарскай мантыі, асветленага духоўнай прыгажосцю, у глыбокай засяроджанасці.

**Лідзія САВІК**

Працяг.
Пачатак у №№ 22—28.

# СТВАРАЕЦЦА МУЗЕЙ "БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ"






9 ліпеня ў Нацыянальным цэнтры імя Ф. Скарыны, які размяшчаецца ў будынку былога Інстытута беларускай культуры, адкрылася выстава "Беларусы ў свеце". І ў гэты ж дзень была адкрыта мемарыяльная дошка Максіму Гарэцкаму, устаноўленая на будынку таго ж Скарынінскага цэнтра. На ёй такі надпіс: "Тут у 1925 годзе ў Інстытуце беларускай культуры працаваў Максім Гарэцкі — выдатны беларускі пісьменнік і грамадскі дзеяч". Кветкі да яе ўсклалі навукоўцы, пісьменнікі, дэлегаты Першага з"езда беларусаў свету. Потым усе пайшлі паглядзець выставу. Пра гісторыю яе стварэння і ідэю расказаў Адам Мальдзіс.

— Калі ішла падрыхтоўка да Першага з"езда беларусаў свету, мы задумаліся, што застанецца пасля яго. Застанецца памяць пра гасцей Мінска, надрукаваныя прамовы. Аднак хацелася распачаць новую справу, звязаную з беларусамі ў свеце. Так з"явілася ідэя адкрыць у зале, дзе збіраліся прадстаўнікі Інбелкульта на свае пасяджэнні, музейную экспазіцыю "Беларусы ў свеце". Мы спадзяёмся, што потым яна ператворыцца ў музей з такой жа назвай. Здавалася спачатку, што ўсё было накіравана на тое, каб задума не здзейснілася. Нас падводзілі будаўнікі, былі іншыя праблемы. Але ў апошнія 3—4 дні ўдалося ўсё ж такі зрабіць экспазіцыю, дзякуючы дапамозе Нацыянальнага музея Беларусі, Саюза прадпрымальнікаў Беларусі. У адных мы пазычылі музейныя стэлажы, у другіх — крэслы і сталы. Аднак экспанаты — нашы. Галоўная мэта экспазіцыі — паказаць гісторыю беларускай эміграцыі, людзей, якія яе прадстаўляюць. А гісторыя яе пачалася яшчэ ў часы Скарыны. Ён сам працаваў і вучыўся ў Чэхаславакіі, Італіі. Многія іншыя беларускія людзі, якія не маглі працаваць на карысць свайго народа, рабілі гэта дзеля іншых народаў. На гэтай выставе ёсць унікальныя дакументы, звязаныя з беларускім жыццём мінулага і нашага стагоддзяў па ўсяму свету. Большасць з іх прывезена суродзічамі з-за мяжы. Ёсць экспанаты, падараваныя бібліятэкай і музеем імя Францыска Скарыны ў Лондане, Беларускім інстытутам навукі і мастацтва ў Нью-Йорку.

Выстава ў Скарынінскім цэнтры — пачатак стварэння музея. Хоць і зусім невялікая — у маленькім памяшканні змаглі паказаць не болей за дзесятую частку ўсіх экспанатаў, — яна ўражвае расповядам пра такія розныя і часта такія трагічныя лёсы адарваных ад роднай зямлі людзей.

На выставе паказаны карціны беларускіх мастакоў М.Купавы, Ч.Харашэвіча, мастакоў з Рыгі В.Целеша, В.Дзевіскібы. Вельмі запамінальная гравюра Яўгена Мальдзіса (г.Познань) "Замак-прывід". Замак на высокім беразе ці то ракі, ці то мора. Ёсць у ім нешта ад Мірскага замка.

Асобныя стэнды на выставе прысвечаны Барысу Кіту (здымкі са збору Лідзіі Савік), пісьменніку з ЗША Масею Сяднёву. Ёсць на выставе унікальны экспанат — карта БНР, выдадзеная ў 1918 годзе ў Берліне на французскай мове. Належ[illegible] яна ў мінулым члену Інбелк[illegible]а Язэпу Дылу. Нядаўна дачка яго падаравала гэтую карту музею. Ёсць тут маркі, паштоўкі, выдадзеныя ў часы БНР.

Нямала матэрыялаў пра жыццё беларусаў у ЗША. Гэта здымкі, кнігі, пласцінкі, серыя плакатаў беларускай эмігра[illegible] якія расклейваліся па гарадах ЗШ[illegible] да беларускіх святаў. Кнігі тут розныя — ад "Выбраных дыялогаў" Платона да "Беларусаў у ЗША" В.Кіпеля. Ёсць тут англа-беларускі слоўнік Я.Пятроўскага (1946 года выдання), мастацкая літаратура, кнігі, што выйшлі ў Англіі, Польшчы. Большасць з іх перададзена ў Нацыянальную бібліятэку Беларусі. Так што кнігі можна будзе не толькі паглядзець у музеі, але і прачытаць у бібліятэцы.





Колькасць і разнастайнасць беларускіх часопісаў і газет па ўсяму свету не можа не здзівіць. Беларуская кніга і перыёдыка за мяжой чакаюць яшчэ свайго даследчыка як па гісторыі літаратуры, так і па гісторыі журналістыкі.

На заканчэнне прагляду выставы Адам Мальдзіс заклікаў усіх прысутных дапамагчы ў стварэнні музея новымі экспанатамі, інфармацыяй пра беларускае замежжа. Што ж, калі існуе масавая беларуская эміграцыя, то, відаць, музей "Беларусы ў свеце" нам патрэбны. Тым больш, што пачатак яго ўжо ёсць.

Алена СПАСЮК.

НА ЗДЫМКАХ: адкрыццё мемарыяльнай дошкі Максіму Гарэцкаму на былым будынку Інбелкульта і сама мемарыяльная дошка; дэлегаты з'езда ў Скарынаўскім цэнтры на адкрыцці выставы "Беларусы ў свеце".

# НЕ ВЫПУСЦІМ З РУК СВАЮ ЎЛАСНУЮ ДОЛЮ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Мне здаецца, што першы рух да такога аб'яднання ў нас адбыўся. Гэта самы галоўны вынік нашай сустрэчы, пачатак нашай сумеснай працы па стварэнню незалежнай дзяржавы. Мы — Згуртаванне беларусаў — не толькі адныя беларусы па нацыянальнасці — гэта ўсе тыя людзі, што жывуць на нашай Бацькаўшчыне. Гэта вельмі важна падкрэсліць. Усе вы ведаеце, якія зараз адбываюцца міжнацыянальныя канфлікты, у нас гэтага няма. І мы ўсіх клічам у Згуртаванне, хто прызнае нашу Бацькаўшчыну незалежнай, змагаецца за яе адраджэнне.

Старшынёй Рады ЗБС "Бацькаўшчына" абрана Ганна Сурмач, па прафесіі гісторык, па прызванню арганізатар і адданы справе адраджэння чалавек. У тым, што адбыўся Першы з'езд беларусаў свету, немалы ўклад Ганны Іванаўны, у час падрыхтоўкі форуму старшыні рабочай групы.

Сярод тых, хто падзяліўся сваімі ўражаннямі пра з"езд, быў на заключнай прэс-канферэнцыі і наш зямляк Вітаўт Кіпель, дырэктар Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку. Ён сказаў:

— З пункту погляду прадстаўніка далёкай дыяспары, з'езд я ацэньваю ў трох вымярэннях: ушанаванне мінулага, глыбокі аналіз сучаснасці і погляд на будучыню.

Аналіз мінулага. Гэта быў той сімвалічны жэст, які зрабілі на вуліцы Рэвалюцыйнай, дзе была адчынена мемарыяльная дошка класіку беларускай літаратуры Максіму Гарэцкаму. І наогул ушанаванне Інстытута беларускай культуры, які ў адраджэнні беларускім у гэтым стагоддзі адыграў, бясспрэчна, першую ролю.

Аналіз сучаснага становішча адбываўся на працягу ўсіх трох дзён з'езда. Адбываўся дэмакратычна. Гэты працэс дэмакратычнага адраджэння, відаць, ужо жыве на Беларусі. Выступаў, хто хацеў, калі хацеў і як хацеў. Але ў пэўным адміністрацыйным парадку. Гэта, бясспрэчна, вялікае дасягненне.

У агульны кацёл здабыткаў трэба аднесці і праведзеную напярэдадні з'езда ў Гродне навуковую канферэнцыю "Рым-IV". Там закладаліся падмуркі таго, чаго гісторыя Беларусі яшчэ не ведала: аб'ектыўнае трактаванне Вялікага Княства Літоўскага. Планы на будучыню закладваліся таксама на з'ездзе.

На мой погляд, асноўным дасягненнем з'езда з'яўляецца тое, што ўся дыяспара практычна ўцягнута ў жыццё Бацькаўшчыны. Эміграцыя сёння чуецца часткай свайго народа. І яна прыняла на сябе яшчэ адзін абавязак - працаваць разам з Беларуссю, на Беларусь.

На нас гісторыя ўсклала важны абавязак. І пачаткі гэтага вялікага плана здзейснены на з'ездзе.

У падрыхтоўцы і правядзенні з'езда актыўны ўдзел прымалі і ўрадавыя структуры, дапамагаючы матэрыяльна і не ўмешваючыся ў ход падзей. Намеснік Старшыні Савета Міністраў РБ Міхаіл Дзямчук выступіў на з'ездзе з дакладам "Рэальнасці дыктуюць нам праграму пераходнага перыяду". Ён адзначыў, што з'езд быў першым крокам да яднання беларусаў. Вельмі прыемна, што на ім панаваў дух цярпімасці. Дзякуючы з'езду, прадстаўнікі ўрада ўбачылі ўвесь спектр праблем.

Першы з"езд беларусаў свету прыняў цэлы пакет дакументаў, якія ў хуткім часе з'явяцца ў друку.

Дзіяна ЧАРКАСАВА.



9 ліпеня 1993 года Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры наведалі беларусы з Аўстраліі: Іван Яшчанка, Ганна Корбут, Алесь Шнэк. Яны пазнаёміліся з выставай "Покліч", якая распавядае пра трагічныя лёсы таленавітых беларускіх паэтаў і пісьменнікаў: М.Гарэцкага, Ц.Гартнага, У.Жылкі, М.Чарота, Т.Кляшторнага і шмат іншых.

А за кубачкам кавы, у час сустрэчы, госці і супрацоўнікі абменьваліся думкамі і пажаданнямі. Цёплая размова быццам зменшыла адлегласць, што раздзяляе Беларусь і Аўстралію. Перад прысутнымі выступіў фальклорны гурт "Дзянніца". Слёзы радасці ў гасцей выклікалі песні розных рэгіёнаў Беларусі ў своеасаблівым выкананні спевакоў. А пасля галасы прысутных зліліся ў адзіную мелодыю "Зоркі Венеры" М.Багдановіча. Доўга яшчэ сэрцы людскія поўніліся павагай і ўзаемаразуменнем.

НА ЗДЫМКУ: госці з Аўстраліі ў музеі.

Міхась ЛАПЦІК

## ТАМ РАДЗІМА МАЯ

**Вось ляцяць у небе гусі**
**І к маёй Беларусі**
**Дзе ў маленстве далёкім**
**Басанож бегаў я**

**Векавыя курганы**
**Ды сівыя туманы**
**А ў суніцах паляны**
**Там радзіма мая**

**Там дзе неба ў блакіце**
**І валошкі у жыце**
**А ў зялёнай ракіце**
**Слухаў спеў салаўя**

**Там на рэчцы Арэсе**
**Рушнік мые Алеся**
**Кук зязюлі у лесе**
**Там радзіма мая**

**Супыніцеся гусі**
**Вы ў маёй Беларусі**
**Дзе касцы сена косяць**
**А жанкі бяруць лён**

**Ў напамінак аб сыне**
**Што жыве на чужыне**
**Вы маёй Бацькаўшчыне**
**Перадайце паклон**

*Казахстан, г.Кустанай.*



Дэлегаты Першага з"езда беларусаў свету пабывалі і ў Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і быту, што пад Мінскам. Тут гасцей пазнаёмілі з экспанатамі музея пад адкрытым небам, для іх гучалі песні ў выкананні хору Мінскага культасветвучылішча і дзіцячага фальклорнага ансамбля "Калыханка".

НА ЗДЫМКУ: дырэктар музея Георгі ТКАЦЭВІЧ знаёміць гасцей з узорамі народнай архітэктуры.

Фота У. ВІТЧАНКІ.

ЖЫВЕ Ў ВАРШАВЕ БЕЛАРУСКІ ПАЭТ

# "ТАДЫ Ў ДУШЫ МНЕ РАДАСЦЬ ЗАЦВІЦЕ"

Нягледзячы на сталы ўзрост, застаць яго дома ў Варшаве вельмі цяжка. Ён любіць быць сярод людзей, а больш за ўсё — падарожнічаць. Гэтымі словамі дазвольце мне пачаць свой невялікі расказ пра беларускага паэта з Польшчы Дзмітры Шатыловіча.

Нарадзіўся ён у 1926 годзе ў вёсцы Чаромха на Беласточчыне. У час нямецка-фашысцкай акупацыі быў вывезены на прымусовую працу ў Германію.

Пасля прыходу Савецкай Арміі быў вызвалены і накіраваны на фронт. Дэмабілізаваўся, вярнуўся на радзіму. Вучыўся ў беларускай гімназіі і польскім ліцэі ў Бельску-Падляскім. Закончыў таксама Ленінградскі электратэхнічны інстытут. Працаваў у Міністэрстве энергетыкі ў Варшаве, а таксама ў Югаславіі і Індыі...

Першыя свае вершы Дзмітры Шатыловіч надрукаваў у газеце "Ніва" (Беласток) у 1957 годзе. А ў 1992 годзе з друку выходзіць яго першы паэтычны зборнік "Эцюды падарожжа", які ўмоўна можна падзяліць на тры раздзелы. У першы ўвайшлі вершы-ўспаміны з юнацкіх гадоў, другі раздзел склалі некалькі вершаў з франтавых дарог.

Але найбольш у зборніку радкоў, прывезеных з розных куткоў далёкіх і блізкіх краін. Адны назвы "Храм у Чэрмнай", "Запіскі з Варны", "Дзень у Ленінградзе", "Ля возера Рыца", "Вечар у Кіславодску", "Перад афінскім Акропалем", "У Літахароне" і іншыя — гэта паэтычная геаграфія зборніка. Добра пра гэта сказаў неяк беларускі паэт з Беластока Віктар Швед: "Цікавы цыкл вершаў Д.Шатыловіча з яго замежных паездак, у якіх, стоячы на руінах старажытнасці, мінулае спалучае з сённяшнім светаадчуваннем. Шатыловіч, хоць піша рэдка, аднак піша ён з размахам, любіць маляваць шырокія палотны, яго творы прадстаўлены ў традыцыйнай эпічна-апавядальнай інтанацыі":

**Пляц малы пры дарозе,**
**а побач царква**
**Светла-жоўтымі фарбамі**
**вабіць навокал,**
**Пад прыстанішча муз,**
**дзе мы сёння былі,**
**А другая ля дзіўных далін Энiпефса.**
**Мы глядзім на вялізны**
**бліскучы масіў**
**У праменнях гарачых**
**паўднёвага сонца;**
**Сівізною снягоў нехта**
**горы прыкрыў,**
**І яны, як гіганты, тырчаць там**
**бясконца...**

А літаральна днямі Дзмітры Шатыловіч даслаў мне з Варшавы свой новы паэтычны зборнік "Маё Падляшша", які выйшаў у Беластоку ў выдавецтве ГП БГКТ. У ім змешчаны трыццаць два вершы, якія напісаны ў розныя гады. Адкрываецца зборнік вершам "Падляшша". Дарэчы, гэта першы верш паэта, які быў надрукаваны ў "Ніве" ў 1957 годзе. У ім аўтар апісвае родныя краявіды Падляшша, якія захавалі сваё даўняе аблічча:

**І зноў Падляшша. У акне вагона**
**Мільгаюць манатонна[illegible]ныя палі,**
**Загоны вузкія бягуць[illegible]ес зялёны,**
**Дзе стужкай аддзяліў ён неба**
**ад зямлі.**
**І межы, межы, без канца і краю,**
**Абселі ўвесь раўнінны акіян!..**

Пра Падляшша ў зборніку ёсць і яшчэ адзін верш. Ён так і называецца "Зноў Падляшша". Т[illegible] аўтар успамінае свае юнацкія г[illegible] сяброў, а таксама прызнаецца:

**Я яшчэ іх памятаю**
**І вясёлых, і прыгожых**
**Пры вясельных караваях,**
**Пры ад'ездзе ў падарожжа.**
**Вельмі цешуся, што бачу**
**Іх мажных дзяцей і ўнукаў,**
**Як жывую перадачу**
**Свежай будучыні ў рукі.**
**Цешуся, што іх не мучаць**
**Голад, смага і галеча,**
**Што іржышча больш балюча**
**Босых ног ім не калечыць...**

Больш паловы вершаў Дзмітры Шатыловіча прысвечана вёсцы, вясковаму жыццю, яго праблемам, а таксама прыгажосці роднага краю. Нават не верыцца, што такія радкі можа напісаць чалавек, які ўсё ж большую частку свайго жыцця аддаў гораду:

**Я помню счарнелыя сцены**
**Пад жоўтай страхою, як воск,**
**Парог ля дзвярэй, як палена,**
**І плот з крапівою ў мой рост.**
**І сенцы, і нізкі пакоік,**
**І белую рускую печ,**
**Пад цёмнай іконаю столік,**
**Лампаду, падстаўку для свеч...**

Ёсць у новым паэтычным зборніку беларускага паэта і вершы пра каханне. Яно ў яго то радаснае, то сумнае, то балючае, то чыстае, як крыніца. Звычайна гэта вершы-прысвячэнні. Але яны лёгка чытаюцца і запамінаюцца...

Шмат можна гаварыць і пісаць пра паэзію Дзмітры Шатыловіча, асабліва пра яго новы зборнік "Маё Падляшша". Але самым яркім і моцным вершам у зборніку ўсё ж з'яўляецца верш "Радзіма". Ён для паэта як гімн, як малітва:

**Твой лёс, як мой, мне дарагі бясконца,**
**Калі нядобры — сэрца плач гняце.**
**Калі ж табе заззяе шчасця сонца —**
**Тады ў душы мне радасць зацвіце.**

Да сказанага пра творчасць беларускага паэта з Варшавы застаецца толькі пажадаць яму натхнення і новых кніг.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

*АДКУЛЬ ШТО ПАЙШЛО?*



# СТАРЫ БЕЛАРУСКА-МАГІЛЁЎСКІ ВАЙСКОВЫ ШПІТАЛЬ

Гісторыя медыцынскай установы, што знаходзіцца ў Пячэрску, налічвае каля 200 гадоў. Першае паведамленне аб ёй датуецца 1804 годам. Магчыма, тады і было набыта вайсковым ведамствам ва ўдавы Карабанькавай 9 дзесяцін зямлі пад багадзельню, ці інвалідны дом. Нагадаем, што Карабанькавы ў XVIII стагоддзі былі войтамі Магілёва, і да Багаяўленскай царквы быў прыбудаваны правы прыдзел, дзе хавалі найбольш знатных прадстаўнікоў гэтага роду. Прадмесце, дзе яны жылі, атрымала назву Карабанаўка, а шэраг вуліц і завулкаў і зараз носяць гэтае прозвішча.

Аб будаўніцтве першага на Беларусі так званага Старога Беларуска-Магілёўскага вайсковага шпіталю згадваецца пад 1817 годам. Ён будаваўся па праекту смаленскага архітэктара Ф.Фрыксена і быў скончаны ў 1820 годзе. Галоўны будынак захаваўся да нашага часу і стаіць перпендыкулярна Пячэрскай шашы і паралельна рацэ Дубровенцы. Галоўны корпус пабудаваны ў стылі класіцызму і нагадваў палац. Двухпавярховы сіметрычны буданык з масіўным порцікам упрыгожваў моцны купал і пілястры па фасаду. Унутры знаходзіліся пакой дзяжурнага, палаты, гаўптвахта, аптэка і іншыя памяшканні.

Побач з галоўным будынкам драўляныя пабудовы гаспадарчага прызначэння (лядоўня, цэхгауз, кухні, лазня і інш.), летні шпіталь, жыллё для чыноўнікаў і службоўцаў (святара, аптэкара, лекараў). Вакол будынкаў быў разбіты парк і пасаджаны алеі. Рэшткі апошніх захаваліся і цяпер.

Праз некалькі гадоў пасля пабудовы старога шпіталю вырашылі ўзвесці яшчэ адзін трохпавярховы корпус на 403 хворых. Гэты шпіталь другога класа, прazваны новым, быў пабудаваны ў 1825—1830 гадах насупраць старога, утвараючы такім чынам досыць вялікі двор паміж імі. У асноўным тут знаходзіліся палаты для хворых, у тым ліку і арыштантаў. Асаблівая ўвага тут звярталася на паляпшэнне ацяплення і вентыляцыі памяшканняў. Фасады новага шпіталя былі больш скупа аздоблены па першаму паверху, сандрыкамі (гзымсамі) пад вокнамі другога і трэцяга паверхаў, а таксама мелі вялікія, на тры паверхі, арачныя нішы, якія заключалі вокны лесвічных клетак і калідораў. Значным упрыгажэннем галоўнага фасада была ордэрная ўстаўка над уваходам.

На жаль, з-за цэглы дрэннай якасці будынак новага шпіталя прыйшоў у заняпад, і ў 1849 годзе было вырашана яго разабраць. Па праекту 1846 года на гэтым месцы павінен быў вырасці новы двухпавярховы шпітальны будынак. Але Мікалай І вырашыў, што ўзнаўляць шпіталь амаль за 7 вёрст ад горада і вазіць туды зімой хворых "жестоко и ни с чем несообразно", і прапанаваў пабудаваць новы шпіталь І класа ці ў самім Магілёве, ці ў яго(н)най заставе.

Новае месца абралі за Быхаўскай заставай, дзе, нягледзячы на некаторыя змены, звязаныя з пераводам шпіталя ў другі клас, яго пабудавалі ў сярэдзіне 50-х гадоў мінулага стагоддзя. Цяпер гэты раён вуліцы Чэлюскінцаў недзе за Успенскімі могілкамі, якія па плану горада ў 1918 годзе пазначаны як вайсковыя.

Пасля пабудовы шпіталя за Быхаўскай заставай Пячэрскі комплекс стаў летнім шпіталем, а з 80-х гадоў ён, верагодна, ператвараецца ў адзін з першых псіхіятрычных стацыянараў на тэрыторыі Расійскай імперыі.

(Заканчэнне на 8-й стар.).

## ВЫПУШЧАНА БЕЛАРУСКІМІ ВЫДАВЕЦТВАМІ




# НАВОШТА НАМ АМФІБІІ?

У Інстытуце заалогіі Акадэміі навук Беларусі прыходзяць пісьмы з самых розных месцаў нашай рэспублікі і замежжа. Пісьмы гэтыя па самых розных пытаннях, але многа і пра жаб, змей, яшчарак. Вось некалькі вытрымак з іх:

— Я вельмі люблю жаб, чарапах, яшчарак, бяру іх у рукі, разглядаю, але змей баюся.

— У нашага дзядулі пад падушкай, пад авечай шкурай, вывелася дзевяць маленькіх вужанят.

— Я загарала і чытала кніжку. Потым, павярнуўшы галаву, бачу: ля маіх ног паўзе змяя. Я ўскочыла, хачу бегчы, але не магу, а змяя знікла. Калі я ўзняла посцілку, на якой ляжала, то ўбачыла нару і рэшткі змяінай скуры. Чаму гадзюка не кінулася на мяне, калі я ляжала на яе нары?

Усе гэтыя пісьмы накіроўваюцца спецыялісту — герпетолагу. Ім у Інстытуце заалогіі з'яўляецца намеснік дырэктара па навуцы, доктар біялагічных навук Міхаіл Пікулік. Ён аўтар многіх навуковых і навукова-папулярных кніг па герпеталогіі. Магчыма, масавы інтарэс да жаб, яшчарак, гадзюк, вужоў, чарапах падштурхнуў вядучага вучонага-герпетолага рэспублікі выйсці за рамкі яго чыста навуковых манаграфій і публікацый і пачаць серыю навукова-папулярных кніг па гэтай праблеме.

З'явілася новая навукова-папулярная кніга М. Пікуліка "Навошта нам амфібіі?"

Амфібіі — гэта жабы, трытоны. Усім вядомы гэтыя насельнікі нашых лясоў, балот, лугоў. Многія з нас з яўнай агідай ставяцца да гэтых карысных жывёлін. Пра тое, ці справядлівыя такія адносіны, пра вялікую, але яшчэ недастаткова ацэненую ролю земнаводных у прыродзе, пра іх значэнне для чалавека, аб цікавых, дзіўных і малавядомых шырокаму колу чытачоў баках жыцця гэтых жывёлін і расказвае аўтар.

Кніга па свайму зместу з'яўляецца своеасаблівай энцыклапедыяй, у якой чытач знойдзе шматлікія звесткі па многіх разнастайных пытаннях, што тычацца жыцця гэтых амфібій.

І вось свежае, апошняе, што прыйшло ў Інстытут заалогіі, ужо М. Пікуліку пісьмо. Прыводжу вытрымку з яго: "Дзякуй Вам за цікавую кнігу, за яе пазнавальны і выхаваўчы характар. Думаю, што дарослыя і дзеці, прачытаўшы Вашу кнігу, калі не палюбяць, то ўсё ж лепш будуць ставіцца да жаб, яшчарак, змей".

У заключэнне неабходна адзначыць, што кніга аформлена з добрым мастацкім густам, змяшчае вялікую колькасць цудоўных каляровых ілюстрацый. Яна — добры падарунак сябрам прыроды.

**Аляксандр КУРСКОЎ.**

# НОВАЯ РЭЗІДЭНЦЫЯ БНФ

9 ліпеня па вуліцы Варвашэні, 8, у горадзе Мінску, адбылося адкрыццё штаб-кватэры Беларускага народнага фронта "Адраджэнне". Тут тры невялікія пакоі для штодзённай працы і зала, дзе будуць адбывацца пасяджэнні Сойму (вышэйшы кіруючы орган Фронта), упраў і г.д.

Памяшканне атрымалі яшчэ зімой, і на працягу некалькіх месяцаў добраахвотнікі Беларускага народнага фронта, ахвяруючы сваім вольным часам, з дня ў дзень надавалі яму адпаведны выгляд: мянялі падлогу, дзверы, потым усё фарбавалі, набівалі мэблю, карацей кажучы, рабілі ўсё, каб памяшканне было ўтульным і прыдатным для працы. У канцы чэрвеня нарэшце ўсё была скончана.

Так атрымалася, што ўваходзіны супалі з днямі, калі ў Мінску адбываўся Першы з"езд беларусаў свету, і таму не выпадкова новае памяшканне наведала шмат гасцей як з блізкага, так і далёкага замежжа.

За "круглым сталом" старшыня БНФ "Адраджэнне" Зянон Пазьняк расказаў аб дзейнасці руху, пазнаёміў больш падрабязна з яго мэтамі і накірункамі. Частуючыся ласункамі беларускай кухні (дарэчы, усё было прыгатавана рукамі прыхільніц Фронта), гаспадары і госці вялі размову аб складаным эканамічным і палітычным становішчы Беларусі. Абмяркоўваліся шляхі выхаду краіны з крызісу. Але паступова дзелавыя размовы змяніліся на больш эмацыянальныя. Знаёміліся з выцінанкамі Таццяны Маркавец, успомнілася і мінулае. Было добра і ўтульна. Фальклорны гурт "Ліцвіны" надаў яшчэ больш лірычны лад вечарыне. Доўга гучалі беларускія песні. Спявалі ўсе разам.

**Таіса БАНДАРЭНКА.**

# СТАРЫ БЕЛАРУСКА-МАГІЛЁЎСКІ ВАЙСКОВЫ ШПІТАЛЬ

(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).

У 1887 годзе яго ўзначальваў адзін з першых псіхіятраў Расіі М.Ігнацьеў, у 1905—1910 гадах тут працаваў вядомы спецыяліст у галіне псіхіятрыі П.Якабі.

У мінулым стагоддзі ў вайсковых шпіталях Магілёва плённа працавалі таленавітыя дактары, сярод якіх былі і нашы земляні. Прынамсі, працы некаторых з іх сусветна вядомыя. Напрыклад, у Магілёве ў 1794 годзе нарадзіўся і працаваў у гэтым шпіталі (1821—1828) Кандрат Грум-Гржымайла, які напісаў шэраг работ па лячэнню грыжы, па фізіялогіі і паталогіі дзяцей, гігіене, выдаваў газету "Друг здравия". Дзвесце гадоў таму, 12 ліпеня 1792 года, у Магілёве нарадзіўся ...еў Нагумовіч, выдатны хірург, удзельнік вайны 1812 года, аўтар навуковых работ па лячэнню агнястрэльных ран і халеры. У 1818—1826 гадах ён працаваў ардынатарам у магілёўскім шпіталі.

Знаходжанне ў горадзе шэрагу вайсковых медыцынскіх устаноў безумоўна паспрыяла актывізацыі такой дзейнасці. Тут адчыняецца фельчарска-акушэрская школа (1875 год). Магілёўскую мужчынскую гімназію заканчвае некалькі дзесяткаў добрых медыкаў, у 1862 годзе ў горадзе ўтвараецца навукова-медыцынскае таварыства, дарэчы, першае на Беларусі.

Такім чынам, мы бачым, што магілёўская медыцына мае гісторыю і патрабуе свайго далейшага даследавання, а будынкам старэйшага на Беларусі шпіталя неабходна рэстаўрацыя.

**Зміцер ЯЦКЕВІЧ.**

## ЛЕТА

### НАДВЯЧОРАК

Мне любы вячэрні спакой дрэў, калі вербы і алешыны адпачываюць пасля гарачага дня. У такі час, бадай, няма нічога прыемней, чым сядзець пад вярбою з вудаю. Лашчыць вока ціхі бляск вады ад вячэрняе зарніцы, нерухомыя доўгія цені дрэў накрываюць рэчышча.

Які шчодры вечар на прыгажосць!

Усё вечаровае з загадкаваю цішынёю і бесклапотнасцю ствараюць радасць жыцц. упэўненасць у перамозе дабра, надзею на пасвятленне ў заўтрашнім дні.

Да чаго ж багата наша Беларусь прыродаю: сінявокія азёры, зялёныя лясы, мурожныя сенажаці. Як можна жыць без іх на чужыне?!

Усё гэта я бачыў і раней, але тады, у маладосці, яно не рабіла такога ўражання. Чаму?

Адказаць цяжка. Відаць, таму, што тады мэта жыцця і штодзённыя клопаты не адпавядалі адзінству з прыродаю: прыгажосць і цяжкая праца на гаспадарцы.

### ЗАДУМЕННАСЦЬ

Некалькі дзён панавала прахалода, налятаў паўночны вецер. І вось раптам з поўдня падзьмуў напоены сонцам лагодны ветрык. Ён гнаў на поўнач прахалоду, вызваляў нашу прастору для сонца і цяпла.

Стала ціха і цёпла. Збавіцель-ветрык, стаміўшыся, заснуў. Не было каму нават скалыхнуць лісток. Паветра густое ад водару траў і кветені ліпы. У такі час, здаецца, уся прырода чагосьці чакае.

Вось каб ведаць, чаго?

**Яўген КРАМКО.**



**З дванаццаці гадоў іграе на скрыпцы жыхар вёскі Новыя Баркі Маларыцкага раёна Аляксей ДУРДЗЮК (на здымку), якому споўніўся нядаўна 81 год. Ён нязменны ўдзельнік усіх мясцовых вяселляў, сельскіх святаў, неаднаразова выступаў у Брэсце, Мінску і іншых гарадах Беларусі як удзельнік мастацкай самадзейнасці.**

**Але Аляксей Нічыпаравіч не толькі іграе на скрыпцы. Ён сам майструе гэтыя інструменты. Іх у яго ўжо дзевяць.**

**Фота Э. КАБЯКА.**

# ДАПАМАЖЫЦЕ АДНАЎЛЕННЮ ХРАМА

**Пачаты работы па аднаўленню Свята-Троіцкага храма ў вёсцы Гарадок Маладзечанскага раёна, які быў узведзены ў першай палове XIX стагоддзя на перасячэнні гістарычных дарог Еўропы.**

**Улічваючы ўсё ўзрастаючы тэмпы інфляцыі і недахоп царкоўных сродкаў і ахвяраванняў прыхаджан, працягваць пачатыя работы не ўяўляецца магчымым, і тое, што ўжо зроблена за 1,5 года, робіцца непрыгодным.**

**У сувязі з выключным становішчам я прашу вас аказаць дзейсную фінансавую ці тэхнічную дапамогу па аднаўленню храма.**

**Ва ўсе цяжкія часы той, хто даваў на добрую, Божую справу, меў у сто разоў больш, як пра тое напісана і ў Св. Пісанні: "...рука дающего да не оскудеет".**

**Ваш дар дапаможа ўзнавіць адзін з святых храмаў нашай Праваслаўнай царквы, паслужыць справе культурнага і духоўнага адраджэння нашага грамадства, станаўленню роднай Беларусі.**

**Грошы прашу пераводзіць на разліковы рахунак 701510 у Жылсацбанку г. Маладзечна, код 738, з пісьмовым паведамленнем на адрас: 222336, Мінская вобласць, Маладзечанскі раён, в. Гарадок, Свята-Троіцкая царква. Свяшчэнніку айцу Аляксандру Міхейчыку.**

**Благаславі Вас Бог Сваёю боскай ласкай.**

**Настаяцель Свята-Троіцкай царквы а. Аляксандр МІХЕЙЧЫК.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Індэкс 63854. Зак. 1041. Падпісана да друку 19. 07. 1993 г.